# Ніва

ТЫДНЁВІК ГПБГКТ

№ 44 (870) ГОД XVII БЕЛАСТОК 29 КАСТРЫЧНІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


Сёмы з'езд БГКТ адкрыў новы раздзел у дзейнасці нашай арганізацыі. Праз тыдзень пасля заканчэння працы з'езду мы звярнуліся да старшыні Галоўнага праўлення БГКТ таварыша Мікалая Самоціка з некалькімі пытаннямі.

*— Таварыш старшыня, як вядома, Вы належыце да заснавальнікаў нашай арганізацыі ў 1956 годзе і ад таго часу актыўна ўдзельнічаеце ў працы Галоўнага праўлення БГКТ. Скажыце, як Вы ўключыліся ў дзейнасць нашага таварыства?*

— Гэта быў натуральны працэс. Паходжу я з Ільяшукоў, што на Гайнаўшчыне. Але ўпершыню пазнаёміўся з гісторыяй беларускага народа, беларускай культурай і літаратурай у 1940—41 гадах, калі вучыўся ў сярэдняй школе ў Ваўкавыску. Вайна раптоўна спыніла маю вучобу, аднак не згасіла ва мне цягі да роднага. У 1946 годзе я стаў працаваць настаўнікам і быў ініцыятарам увядзення навучання беларускай мовы ў сваёй школе ў Семяноўцы. Вучыў дзяцей беларускай мове і сам шмат чытаў, каб паглыбіць свае веды. І пачэрпнутае з кніг, і ўласныя назіранні з Гайнаўшчыны ўмацоўвалі ва мне патрэбу дзеяння ў грамадскім жыцці, на ніве беларускай асветы і культуры. Калі ж у 1956 годзе паўстала БГКТ, я адразу стаў яго членам і ўключыўся ў дзейнасць нашай арганізацыі. Пашырыць жа і паглыбіць мае веды па беларусазнаўству дапамагло мне аддзяленне беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, якое я закончыў у 1959 годзе.

*— Як вы ацэньваеце шлях, пройдзены Беларускім грамадска-культурным таварыствам?*

— Этап працы БГКТ ад яго заснавання і па сённяшні дзень быў вельмі багаты, плённы; наша арганізацыя мае многа дасягненняў. Цешыць мяне і тое, што ў гэтым ёсць частка і майго ўкладу. Найбольш я змог дапамагчы БГКТ на Гайнаўшчыне: працуючы з грамадскім актывам, пры арганізацыі навучання беларускай мовы ў школах, заснаванні драматычных гурткоў, сустрэчах з насельніцтвам палітычных і грамадскіх дзеячоў, лектараў, літаратараў. Прымаў таксама ўдзел у праграмаванні дзейнасці гайнаўскага аддзела БГКТ. Працуючы інспектарам аддзела асветы і культуры ППРН, сакратаром ПК ПАРП і старшынёй Прэзідыума ПРН, я заўсёды знаходзіў час і на працу ў БГКТ.

## ЧЛЕН БГКТ — ПРЫКЛАД ІНШЫМ!

*— Якія заданні стаяць цяпер перад нашай арганізацыяй?*

— Іх вызначыў VII з'езд БГКТ і перадз'ездаўская дыскусія. Мы зараз жа прыступаем да апрацавання канкрэтнай праграмы і неадкладна давядзем яе да нашых аддзелаў, гурткоў і кожнага члена БГКТ. Мы павінны актывізаваць усіх членаў арганізацыі і ўсё беларускае асяроддзе да грамадскага і гаспадарчага развіцця рэгіёну. Патрэбы ж у гэтым ёсць вялікія: няспыннае павышэнне ўзроўню культуры сельскай гаспадаркі і прадукцыйнасці працы на прадпрыемствах, большы клопат усяго насельніцтва пра культуру штодзённага жыцця і эстэтыку дамоў, панадворкаў, сялібаў, вёсак, мястэчак і гарадоў. Неабходна, каб як мага болей жыхароў нашага рэгіёну прыступіла да конкурсаў «Беластоцкая вёска заможная і культурная» і «Жыхары свайму гораду». Члены нашага таварыства павінны быць добрымі гаспадарамі і працаўнікамі прадпрыемстваў, для свайго наваколля служыць узорам гаспадарлівасці, прагрэсу і культуры ў жыцці і працы. Гурткі БГКТ, як і раней, і цяпер будуць ініцыятарамі грамадскіх чынаў пры пабудове дарог, святліц, пры пасадцы дрэў і іншых працах. Папулярызацыяй добрай работы і крытыкай нядбайнасці і пасіўнасці зоймецца наш орган «Ніва». У праграмах самадзейных мастацкіх калектываў павінны знаходзіцца творы,



якія б заахвочвалі людзей да актыўнай працы на карысць свайго асяроддзя. Будзем у далейшым умацняць і развіваць нашу арганізацыю і па якасці працы і па колькасці яе членаў.

*— Як Вы бачыце справы збору і захоўвання беларускай народнай матэрыяльнай і духоўнай культуры на Беласточчыне і яе скарыстанне ў развіваючымся турызме?*

— Спадзяемся, што пры дапамозе ва-

Працяг на стар.4

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГПБГКТ

Працавітым было першае пасяджэнне новага Прэзідыума ГП БГКТ, якое адбылося 7 кастрычніка г.г. Найперш ацаніла яно VII з'езд таварыства. Найбольш характэрныя выказванні: з'езд быў дасканала падрыхтаваны. Спрыялі гэтаму сустрэчы з дэлегатамі, належная падрыхтоўка дакументаў, прапаганда і папулярызацыя з'езду прэсай. Усё было прадумана. Дыскусія вычэрпвала цэлую гаму статутовых заданняў. Чырвонай ніткай у ёй праходзіла ідэя адзінства з партыяй. Дыскусія была канструктыўная, не было дэмагогіі і асабістых спраў. Панавала дысцыпліна і аднадумнасць. Сур'ёзна да з'езду аднесліся і ўлады: такога прадстаўніцтва не меў ніводзін наш з'езд.

Затым члены Прэзідыума абмеркавалі і падзялілі паміж сабою галіны дзейнасці. У выніку гэтага старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік адказваць будзе за агульнае кіраўніцтва і за дзейнасць БГКТ у напрамку грамадска-гаспадарчай актывізацыі рэгіёна, намеснік старшыні Георгій Валкавыцкі — за агульнае кіраўніцтва, за выдавецкую дзейнасць і за працу камісіі культуры; сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк — за ўсе арганізацыйныя справы, кадравую палітыку, забеспячэнне ажыццяўлення пастаноў Прэзідыума і кантакты з іншымі арганізацыямі; Аляксандр Баршчэўскі за літаб'яднанне «Белавежа», навуковы гуртoк, варшаўскі і гданьскі аддзелы; Аляксандр Іванюк — за гайнаўскі і сямяціцкі аддзелы; Аляксандр Рафаловіч — за сакольскі і дуброўскі аддзелы; Сцяпан Трафімюк — за бельскі аддзел і праблемы беларускага школьніцтва; Ніна Цыванюк — за беластоцкі (паватовы) аддзел; Сымон Шыманюк — за супрацоўніцтва з прафсаюзамі.

У трэцім пункце парадку дня стаяла праблема арганізацыйнага забеспячэння ажыццяўлення пастаноў VII з'езду. Было вырашана завесці рэестр ажыццяўлення пастаноў.

Пытанне ажыццяўлення пастаноў з'езду знойдзе таксама месца ў гадавых справаздачах.

Тут таксама дакладна былі разгледжаны прапановы дэлегатаў, якія не ўвайшлі ў пастановы з'езду. Гэтыя дэлегаты атрымаюць пісьмовыя адказы, у якіх Прэзідыум паведаміць, як будуць ажыццяўляцца іх пастановы.

Урэшце Прэзідыум ГП БГКТ абмеркаваў план працы на IV квартал. У ім на асаблівую ўвагу заслугоўвае нарада старшынь гурткоў, запланаваная на 29 кастрычніка г.г., і ажыццяўленне плану святкавання 50-й гадавіны СССР.

Лістападаўскае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ зоймецца заданнямі літаб'яднання «Белавежа» ў святле пастаноў VII з'езду і станам конкурсаў, а снежаньскае — ацэнкай ажыццяўлення плана Прэзідыума і планам на I квартал наступнага года.

Прэзідыум ГП пастанавіў таксама ў бліжэйшым часе дзейсна дапамагчы гурткам мастацкай самадзейнасці, забяспечыўшы іх кваліфікаваным інструктажом. (рл)

## ДАРОГУ НОВАМУ

На вёсках Гайнаўшчыны з кожным годам адчуваецца не толькі значны ўзрост матэрыяльнага ўзроўню сялян, які праяўляецца ў лепшым рацыянальным харчаванні, у вопратцы людзей, у абсталяванні дамоў прыгожай мэбляй, у павелічэнні колькасці матацыклаў, пралек, лядовак, радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, але таксама ў прысваенні новых элементаў сельскагаспадарчай культуры. А вось прыклады.

Бяленне хлявоў, абсталяванне ў іх вокнаў і вентылятараў — усё больш звычайная справа для сялян. У грамадзе Ласінка зрабілі гэта такія гаспадары, як Сяргей Данілюк і Рыгор Хіліманюк з Катлоўкі, Аляксандр Кавальскі з Курашава, Васіль Зенюк з Рэпіскаў і іншыя. Часта яны арганізоўваюць калектыўнае бяленне хлявоў, выкарыстоўваючы тэхніку міжгуртковых машынна-трактарных баз (МБМ). МБМ-ы з Курашава і Навасад пабялілі хлявы для 22 гаспадароў у Барысаўцы, для 9-ці — у Рэпісках і для аднаго ў Гарадзіску.

Жанчыны з многіх вёсак, у тым ліку і 10 жанчын з Махнатага прыступілі да конкурсу гігіены хлявоў і даення кароў. Як сцвярджае заатэхнік з ГРН — Ірэна Раманюк, конкурс гэты ўводзіць новыя элементы чысціні падчас даення кароў. Прывучае ён жанчын мыць вымя і дойкі ў кароў, рабіць масаж і выкарыстоўваць чысты ручнік да выцірання памытага вымені і доек. На вёсцы гэта новае. У Махнатым камісія конкурсу прызнала першае месца Ніне Кучко. Конкурс гэты прадугледжвае таксама рацыянальнае кармленне кароў, што ў сваю чаргу спрыяе высокім надоям малака. Удзельнікі конкурсу даення кароў і гігіены хлявоў у Старым Беразове кантрактуюць малако і абавязаны на працягу года прадаць дзяржаве не менш як па 8 тысяч літраў малака.

Добрыя гаспадарчыя будынкі адыгрываюць вялікую ролю ў развіцці жывёлагадоўлі. Цяпер, калі ўжо хто будуе новыя хлявы, дык абавязкова яны мураваныя, са сцёкамі і ўездамі. Паводле ўсіх правіл сучаснасці пабудавалі такія хлявы Васіль Дудко з Курашава, Уладзімір Шварц з Ласінкі, Мікалай Пракапюк з Вулькі і шмат іншых.

Калі ўжо гаварыць аб новым будаўніцтве на вёсцы, дык неабходна падкрэсліць той факт, што многія сяляне будуюць сабе не толькі гаспадарчыя будынкі, будуюцца ў кожнай вёсцы прыгожыя мураваныя дамы, не з традыцыйнымі кухнямі і пакоямі, а будуюцца па-сучаснаму, цікава і функцыянальна. Ды некаторыя гаспадары абсталёўваюць у калодзежах помпы, якія падаюць ваду ў спецыяльныя бакі, і ў хаце ў кранах тады ёсць вада. Вось так свой уласны водаправод мае Уладзімір Іванюк з Ласінкі. Гэта першы дом з водаправодам у гэтай вёсцы, але напэўна хутка будзе іх больш.

Працяг на стар.4



*Новы Прэзідыум ГП БГКТ з прадстаўнікамі палітычных і адміністрацыйных улад — госцьмі VII з'езду.*

*Фота Цаф — П. Савіцкі*

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### СССР І ЗША

Пасля двухбаковых размоў, падпісана савецка-амерыканскае гандлёвае пагадненне. Гэты новы крок у суадносінах паміж дзвюма дзяржавамі мае свае вытокі ў дакуменце аб «Асновах суадносін паміж СССР і ЗША» з мая г.г., падпісаным у Маскве Л. Брэжневым і Р. Ніксанам.

Гандлёвае пагадненне ўводзіць раўнапраўнасць у гандлёвых суадносінах — у пошлінах, аплатах пры імпарце і экспарце, у будове супольных прамысловых прадпрыемстваў. Абедзве дзяржавы будуць развіваць свае гаспадарчыя кантакты. Для гэтага пастаноўлена адкрыць у Маскве і Вашынгтоне гандлёвыя прадстаўніцтвы. Пастаноўлена на працягу трох год павялічыць гандлёвы абарот прынамсі ў тры разы. Пагадненне, на думку абодвух урадаў, кладзе канец ненармальным гандлёвым суадносінам паміж СССР і ЗША, якія цягнуліся 25 год.

Савецка-амерыканскія кантакты развіваюцца і ў галіне навукова-тэхнічнай. Вось вучоныя СССР і ЗША дайшлі да згоды адносна супольнага эксперыментальнага лёту касмічных караблёў «Саюз» і «Аполло». Эксперыментальны лёт будзе даследаваць магчымасць злучэння савецкіх і амерыканскіх караблёў у космасе. Супольны лёт плануецца на 1975 год.

### У В'ЕТНАМЕ

Вызваленчыя сілы Паўднёвага В'етнама вядуць баі ў 15 кіламетрах ад Сайгона — сталіцы Паўднёвага В'етнама. У Паўднёвым В'етнаме пабываў даўжэй, чым прадбачваў план, спецыяльны дарадчык прэзідэнта Ніксана — Кісінджэр. Перад ад'ездам у В'етнам ён вёў перагаворы з прадстаўнікамі Паўднёвага В'етнама ў Парыжы. Палітычныя каментатары ў свеце звязваюць усе гэтыя перагаворы Кісінджэра з шуканнем амерыканскім урадам вырашэння в'етнамскага канфлікту перад прэзідэнцкімі выбарамі ў ЗША. А ў той час, як мы ўжо адзначалі, было знішчана дыпламатычнае прадстаўніцтва Францыі ў Ханоі і цяжка паранены яго прадстаўнік. Сёння даносім, што паранены памёр. Свет абураны в'етнамскай палітыкай ЗША.

### ЕЎРАПЕЙСКІ РЫНАК...

да якога належала 6 заходнееўрапейскіх дзяржаў: Францыя, ФРГ, Італія, Бельгія, Галандыя і Люксембург, пашырыўся да дзевяці дзяржаў. Прыступілі Вялікабрытанія, Данія і Ірландыя. Нарвегія, як вядома, у агульнанародным рэферэндуме адкінула прапанову. У сувязі з гэтым, замест планаваных дзесяці, у Парыжы сабраліся прэм'еры і міністры замежных спраў ЭВГ, але ў складзе дзевяці членаў. Размовы датычыліся спраў унутры рынку і неабходнасці шырэйшага супрацоўніцтва ў гандлі з іншымі краінамі, а перш за ўсё з Усходняй Еўропай.

### ЮНЕСКО

Гэтак называецца спецыяльная арганізацыя ААН па справах асветы, навукі і культуры. У сядзібе ААН у Нью-Йорку адбылася XVII сесія ЮНЕСКО. Удзел прыняло 129 дзяржаў — членаў арганізацыі. На чале Польскага камітэта па справах ЮНЕСКО стаіць яго старшыня Яўгенія Красоўская. (вл)



## БССР

### ТЫДЗЕНЬ МАЛАДЗЁЖНАЙ КНІЖКІ

Па ініцыятыве Цэнтральнага Камітэта Ленінскага Камсамола Беларусі ўстаноўлены «Тыдзень маладзёжнай кнігі». Ён кожны год будзе праводзіцца з 16 па 23 кастрычніка. Першы «Тыдзень маладзёжнай кнігі» адзначаўся ў сталіцы БССР, а наступныя будуць праведзены ў паасобных абласных цэнтрах.

### АЛЬБОМ ДОБРЫХ СПРАЎ

У сувязі са святкаваннем 50-годдзя СССР Магілёўская абласная бібліятэка супольна з уладамі вобласці ўстанавілі «Альбом добрых спраў». У гэтым альбоме кожная бібліятэка ў вобласці мае свой раздзел, куды заносіць усё тое, чым варта пахваліцца перад грамадствам. Вось Ржаўская сельская бібліятэка адзначыла, што ў яе фондзе аж 1540 кніг з уласнаручнымі аўтографамі іх аўтараў. Сярод іх — многа аўтографаў маршалаў і касманаўтаў, між іншым, Гагарына і Церашковай.

### ЧЫРВОНАСЦЯЖНАЯ БІБЛІЯТЭКА

Па ўказу Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Дзяржаўная бібліятэка Беларускай ССР імя У. І. Леніна за плённую работу па камуністычнаму выхаванню працоўных ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### УБОРКА БУРАКОЎ

Паспяхова праходзіць уборка земляплодаў. У калгасе «Радзіма» Нясвіжскага раёна шостая палявая брыгада сабрала з 20 га звыш 6 тысяч цэнтнераў цукровых буракоў. Высокі ўраджай гэтай салодкай сыравіны атрымалі таксама ў калгасах «17 верасня» і імя Калініна.

### ЗЯЛЁНАЯ БРЭСТЧЫНА

У мінулым паўгоддзі ў населеных пунктах Брэсцкай вобласці высаджана амаль 300 тысяч дэкаратыўных і фруктовых дрэў, звыш 70 тысяч кустоў. Такім чынам, Брэстчына яшчэ болей пазелянела і папрыгажэла. Асабліва добрых вынікаў па добраўпарадкаванню дабіўся абласны цэнтр.

### ПРАЦУЮЦЬ У ЛІК 1974 ГОДА

Брыгада бураўзрыўнікоў другога Салігорскага будаўпраўлення камбіната «Беларуськалій» завяршыла ўжо выкананне задання за 1973 год. Брыгада ўзяла абавязацельствы закончыць пяцігодку за 3,5 гады. Цяпер штодзённа выконвае зменныя нормы выпрацоўкі на 150—170 працэнтаў.

### ШТУЧНАЯ ВОЎНА

На новым Полацкім хімкамбінаце рабочы калектыў засвоіў ужо вытворчасць новага штучнага валакна, якое называецца нітрон. Яно з'яўляецца поўнацэнным заменнікам тонкарунная воўны.

### ВЁСКА ПАРЫЖ

Вёска Парыж з'яўляецца цэнтрам калгаса «Кастрычнік» Пастаўскага раёна. Гэты калгас славіцца высокімі ўраджаямі. Сёлета, *для прыкладу*, сабралі там амаль па 40 цэнтнераў з гектара. Людзі ў Парыжы жывуць багата. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

17 кастрычніка адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была прынята пастанова аб далейшым удасканальванні кадравай палітыкі і павышэнні ўзроўню кіраўнічых кадраў. У чарговым пункце нарады Палітбюро падвяло вынікі рэалізацыі праграмы мадэрнізацыі прамысловасці. У заканчэнні свайго пасяджэння Палітбюро знаёмілася са справамі, звязанымі з заканчэннем сёлетняй уборкі прапашных і пашавых раслін, а таксама з выкананнем планаў скупкі сельскагаспадарчых плёнаў.

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА ПНР

19 кастрычніка адбылося пасяджэнне Сейма, якое прысвячалася абмяркоўцы праектаў законаў аб змене канстытуцыі ў сувязі з рэарганізацыяй мясцовай адміністрацыі. Апрача таго, Сейм прыняў праграму перспектыўнага будаўніцтва жыллёвых кватэр. У гадах 1971—1985 намечана пабудаваць каля 5 мільёнаў кватэр.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

20 кастрычніка адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім абмяркоўваліся вынікі выканання важнейшых задач нацыянальнага гаспадарчага плана за мінулыя 9 месяцаў г.г. На пасяджэнні адзначаліся пазітыўныя вынікі ў сельскагаспадарчай і прамысловай прадукцыі. У заканчэнні свайго пасяджэння Рада Міністраў разглядзела закон аб гмінным фондзе.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ПАН

17 кастрычніка адбылося пасяджэнне Прэзідыума Польскай акадэміі навук, якое прысвячалася абмяркоўцы стану асветы ў Польшчы. Нараду вёў старшыня ПАН — праф. У. Тшэбятоўскі.

### НАРАДА Ў ЦК СД

У Варшаве адбылася нарада ў Цэнтральным камітэце Дэмакратычнага страннiцтва, якая прысвячалася падрыхтоўцы да X кангрэса СД, справам развіцця рамяства і актуальным напрамкам Сейма.

### ПРЭМ'ЕР П. ЯРАШЭВІЧ У ШВЕЦЫІ

23 кастрычніка прэм'ер П. Ярашэвіч распачаў свой візіт у Швецыю. Карыстаецца ён вялікім зацікаўленнем у палітычных і гаспадарчых кругах. Візіт прэм'ера будзе мець вялікае значэнне для развіцця ўзаемаадносін паміж дзвюма дзяржавамі.

### РУХАВІКІ ДА «БЕРЛЬЕ» З МЕЛЬЦА

Рухавікі да аўтобуса «Берлье» будзе прадукаваць ВСК «Дэльта» ў Мельцы. Рухавікі будуць мець сілу ў 200 механічных коней.

### РАСЦЕ КАРАЛЕЎСКІ ЗАМАК

Шпаркім тэмпам растуць сцены Каралеўскага замка ў Варшаве. Зараз умуравана ў яго заходняе крыло 2 мільёны штук цэглы. На будове працуе 400 асоб. (ця)



## ВАЯВОДСТВА

### 20 ГОД

Беластоцкай рэдакцыі Польскага радыё споўнілася 20 год. У сувязі з юбілеем кіраўніцтва рэдакцыі было прынята ў Ваяводскім камітэце партыі, а 21 кастрычніка адбылася агульная ўрачыстасць. На свята журналістаў радыё прыйшлі I сакратар ВК партыі З. Куроўскі, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха, генеральны дырэктар па справах радыё ў камітэце радыё і тэлевізіі Э. Адамяк і намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Е. Зентара.

У 1952 годзе, годзе заснавання рэдакцыі, на Беласточчыне было толькі 18 тыс. абанентаў, а сёння іх ужо 160 тыс. Цяпер Беластоцкая рэдакцыя ўсё часцей выходзіць на агульнапольскую антэну.

Экзекутыва Ваяводскага камітэта партыі выступіла да рэдакцыйнага калектыву з адкрытым віншавальным пісьмом. Шэраг працаўнікоў рэдакцыі атрымала высокія дзяржаўныя ўзнагароды.

Рэдакцыя «Нівы» далучаецца да шматлікіх віншаванняў і жадае калегам-журналістам з радыё новых поспехаў у жыцці і працы.

У дзень юбілею адбылася ўрачыстая закладка краевугольнага каменя пад будову новага будынка Беластоцкай рэдакцыі Польскага радыё. Дакумент заснавання падпісалі, а затым уласнаручна замуравалі краевугольны камень З. Куроўскі, З. Спрыха, Э. Адамяк і А. Кіцман.

### РЭЧЫТАЛЬ

Вялікай падзеяй у культурным жыцці Беласточчыны быў прыезд у Беласток піяніста сусветнай славы, лаўрэата шматлікіх міжнародных конкурсаў Вітальда Малцужынскага. У нашым горадзе вялікі майстар іграў творы Ліста, Баха, Франка і Шапена. Слухачы былі запалонены цудоўным выкананнем, велізарнай пасіяй сусветнага піяніста. Аб кантакце гледачоў з артыстам сведчыць можа яго чатырохразовае бісаванне. Вітальд Малцужынскі атрымаў у падарунку ад беластаччан «Альбом Беластоцкай зямлі» і быў запрошаны часцей наведваць наша ваяводства. Рэчыталем В. Малцужынскага пачаліся ў новым музычным сезоне сустрэчы беластаччан са слаўнымі майстрамі музыкі.

### ДЗЕНЬ СУВЯЗІСТА

21 кастрычніка ў тэатры імя А. Вянгеркі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны Дню сувязіста. Сувязісты — гэта працаўнікі пошты, радыё і тэлевізійнай станцыі, працаўнікі распаўсюджвання прэсы і кніжкі «Рух» і шэраг іншых. На ўрачыстым вечары многія сувязісты атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. Сярод іх — Я. Шымчук з Беластока, Я. Лахач з Бельска, П. Семянчук з Беластока і іншыя.

### НАЙВЫШЭЙШАЯ ЎЗНАГАРОДА

Беластоцкі тэатр лялек на міжнародным фестывалі ў Балгарыі заваяваў найвышэйшую ўзнагароду. Тэатр выступіў з вядомай нашым дзецям пастаноўкай «Вясёлыя пеўнікі». Канкурэнтамі беластаччан былі тэатры з Рыгі, Каўнаса, Румыніі, шэраг балгарскіх тэатраў і варшаўскі «Гулівер». (яч)




NIEDZIELA 29.X.
7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy. 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 „Radar". 9.00 Dla młodych widzów: „Teleranek". 10.20 „Coście doktora Korabiewica" („Klub Sześciu Kontynentów"). 11.00 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 13.00 Dziennik. 13.20 Gra Orkiestra TV Katowice. 13.40 „Przemiany". 14.10 PKF. 14.20 Dla dzieci: B. Leśmian — „Baśń o zaklętym rumaku". 15.15 „W obiektywie". 15.45 „Pora sucha" — film dok. franc. („Prawa buszu"). 16.10 „Estradowe spotkania" — program rozrywkowy. 16.50 „Kryteria". 17.00 „Dziś Warszawa — Jutro Paryż" — teleturniej. 17.45 „Mieszkańcy Wysp Salomona" — film dok. austr. („Czas i ludzie"). 18.20 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Leonardo da Vinci" — film wł. odc. I. 21.30 „TV Warszawa w programie piątym". — Tekst i reż. — J. Fedorowicz. 22.00 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 30.X.
15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Spacerkiem po kinach". 18.45 TV Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Miller — „Widok z mostu". 21.30 Publicystyka międzynarodowa. 22.00 Dziennik. 22.20 Pieśni kompozytorów XX wieku śpiewa Magdalena Bojanowska.

WTOREK 31.X.
8.10 „Aleksander Newski" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Mickiewicz „Dziady". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — G. Zapolska — „Moralność pani Dulskiej". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Magazyn Medyczny. 17.10 „Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy". 20.10 „Aleksander Newski" — fil fab. radz. 22.00 „Kolektyw i organizacja". 22.25 Dziennik.

ŚRODA 1.XI.
10.25 Program dnia. 10.30 Film fabularny. 12.00 Dziennik. 12.50 Program dnia. 12.55 Dla dzieci: „Królowa Śniegu" — baśń film. radz. 14.15 „Leon Bater gra na organach Katedry w Oliwie". 14.40 „Pióropusze i ostrogi" — program St. Szwarc-Bronikowskiego. 15.30 „Pionierzy podziemnego frontu" — film dok. pol. 16.05 PKF. 16.15 „Piórkiem i węglem" 16.40 „Tu spoczywa historia" — rep. film. 16.55 „Roznosicielka mleka" — film fab. wł. 18.35 „Klub Sześciu Kontynentów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Kino Interesujących Filmów: „Elektra" — film fab. grecki. 21.45 „Bema pamięci rapsod żałobny" — film. 22.05 Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 2.XI
8.20 „Gdzie jest Urban" — film fab. NRD. 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — A. Mickiewicz „Dziady" 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Ignacy Krasicki". 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Polska poezja współczesna" cz. III. 14.00 Matematyka w szkole: „Dodawanie i odejmowanie" cz. I. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 Program publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Sensacji: F. Durbridge — „Jak błyskawica" odc. III. 21.00 Program publicystyczny. 21.30 „Ekspres nr 12". 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK. 3.XI.
9.20 „Poznańskie słowiki" — film fab. pol. 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 i 23.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza" — pieśni ludowe Republik Radzieckich. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.35 „Orbita" — mag. nauki i techniki krajów socjalistycznych. 19.05 „Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Niewidzialny świat Delty" — film. dok. rum. („Delta Dunaju"). 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV: J. Baudouin — „Świętoszek zmyślony". 22.20 Dziennik. Wiadomości sportowe.

SOBOTA 4.XI.
8.15 „Pola ryżowe" — film fab. wł. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zoologia — „Jamochłony". 10.25 „Niewidzialny świat Delty" — film dok. rum. („Delta Dunaju"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Czechosłowacja". 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: XXV trójmecz harcerski. 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Pola ryżowe" — film fab. wł. 21.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.15 Teatr Rozrywki: E. Labiche — „Zawsze we troje". 23.55 „Zabójcze rymy" — film czechosł. („Opowieści z wyższych sfer").




**Piątek, 27 października**
8.40 Film fab. 12.20 Szkoła szachów. 14.15 Program dnia. 17.00 Turkmenia. 19.00 Czas. 19.30 TV teatr miniatur. 20.15 Po zmianie. Audycja 1.

**Sobota, 28 października**
7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Szkatułka muzyczna. 8.15 Przegląd międzynarodowy. 8.30 Koncert młodych. 9.30 Film. 9.50 ZSRR—50. 10.50 Białoruś literacka. 12.00 Tańczcie z nami. 12.30 Film fab. 14.15 W świecie zwierząt. 15.15 Filmy animowane. 15.45 Hokej SKA — „Dynamo". 17.15 Świat socjalizmu. 17.50 Koncert. 18.20 Program poświęcony komsomołowi. 19.00 Czas. 19.30 Spotkania muzyczne. L. Zykina. 20.15 Spektakl TV.

**Niedziela, 29 października**
7.00 Program dnia. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Film animowany. 9.30 Turniej TV. 10.00 Film animowany dla dzieci. 11.00 Dla żołnierzy. 11.25 Film fab. 14.00 Klub filmowy. 15.00 Piłka nożna. „Zaria" (Woroszyłowgrad) — „Torpedo" (Moskwa). 16.45 Almanach TV. 17.30 Uroczyste otwarcie święta sztuki.

# Запрашаем усіх!

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя «Нівы» аб'яўляе

ВЯЛІКІ КОНКУРС




Вас чакаюць каштоўныя ўзнагароды

ФОТААПАРАТ
ТРАНЗІСТАРНЫ РАДЫЁПРЫЁМНІК
РУЧНЫ ГАДЗІННІК
АРЫГІНАЛЬНЫЯ СУВЕНІРЫ
КНІЖНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ,

калі Вы возьмеце ўдзел у нашым Вялікім конкурсе

«ШТО ВЕДАЕШ АБ САВЕЦКІМ САЮЗЕ?»

Каб стаць удзельнікам конкурсу і ўладальнікам каштоўнай узнагароды, Вам трэба:

рэгулярна і ўважліва чытаць «Ніву», а для гэтага найбольш зручна быць сталым падпісчыкам нашага часопіса;

паглыбляць і пашыраць Вашыя веды аб СССР з савецкіх газет, часопісаў і кніг, на якія Вы таксама можаце падпісацца, альбо набываць іх у кіёсках «Руху», кнігарнях, чытаць у чытальнях, пазычаць у бібліятэках;

узбагачаць Вашае знаёмства з СССР па матэрыялах, апублікаваных на польскай мове ў кніжных выданнях, часопісах і газетах.

Памятайце:

праз тыдзень у «Ніве» Вы знойдзеце падрабязную інфармацыю, як можна стаць удзельнікам нашага Вялікага конкурсу

«ШТО ВЕДАЕШ АБ САВЕЦКІМ САЮЗЕ?»

Да ўдзелу ў ім запрашаем усіх членаў БГКТ і прыхільнікаў нашай арганізацыі, рабочых, сялян, інтэлігенцыю, студэнтаў, вучняў.

ГП БГКТ І «НІВА»

# VII З'ЕЗД БГКТ

(ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА А. ІВАНЮКА)



У сваім выступленні ў дыскусіі на VII з'ездзе БГКТ старшыня гайнаўскага аддзела мгр Аляксандр Іванюк прадставіў найвышэйшаму форуму нашай арганізацыі дасягненні і недахопы ў дзейнасці БГКТ на Гайнаўшчыне і на іх фоне ўнёс шэраг прапаноў, накіраваных на паляпшэнне працы ўсяго нашага таварыства.

А. Іванюк паінфармаваў, што гайнаўскі аддзел гуртуе 35 прац. агульнай колькасці членаў БГКТ, у ім дзейнічае

## ЗА ўдасканальванне і пашырэнне ПРАЦЫ

71 гурток, знаходзіцца найбольш сталых падпісчыкаў «Нівы», уплочваецца *самая вялікая* сума членскіх складчын. На працягу апошніх трох год аддзел арганізаваў 73 урачыстыя вечарыны з нагоды дзяржаўных і міжнародных святаў, знамянальных дат і падзей, правёў 322 даклады і лекцыі, 184 сеансы савецкіх фільмаў, 269 фотавыставак з жыцця БССР і 120 аўтарскіх сустрэч і шэраг іншых мерапрыемстваў.

Аднак гэта не абазначае, што не было ў працы недахопаў ці нявыкарыстаных магчымасцей. Усё яшчэ застаецца нездавальняючай арганізацыйная аператыўнасць гурткоў, не зусім умелае праграміраванне імі свае дзейнасці, хібы ў планаванні працы з актывам, нерэгулярнае аплочванне членскіх складчын.

Гэтыя недахопы ўласцівы большасці аддзелаў нашай арганізацыі. Таму А. Іванюк запрапанаваў, каб аддзелы дапамаглі гурткам у планаванні іх працы, рэгулярна праводзілі два разы ў год нарады з актывам гурткоў, такую ж нараду адзін раз у год павінна сістэматычна арганізаваць Галоўнае праўленне БГКТ. Патрэбна таксама больш канкрэтнае нацэльванне працы сакратароў аддзелаў у напрамку актывізацыі дзейнасці гурткоў. «Ніва» павінна прысвячаць больш месца папулярызацыі дзейнасці гурткоў і працы іх актывістаў.

Значную ролю ў культурна-асветнай і арганізацыйнай дзейнасці нашага таварыства адыграе «Ніва». Таму неабходна паклапаціцца пра павелічэнне колькасці яе сталых падпісчыкаў. Галоўнае праўленне БГКТ і працаўнікі рэдакцыі штотыднёвіка павінны зрабіць больш, чым дагэтуль, у папулярызацыі нашага часопіса. І тут таксама патрэбна прадуманае, комплекснае і доўгатэрміновае дзеянне. Але ў першую чаргу — здзяйсненне лозунга: «Кожны член БГКТ — сталы падпісчык «Нівы».

З мэтай больш спраўнага і рэгулярнага аплочвання членскіх складчын — на думку А. Іванюка — неабходна, каб Галоўнае праўленне БГКТ вызначыла сярод сваіх членаў ці працаўнікоў адказных за паасобныя аддзелы па аплочванню складчын. Аддзелы ж са свайго боку вызначаць актывістаў, адказных за гурткі. Ва ўсёй нашай арганізацыі трэба весці выясняльную працу аб тым, што рэгулярнае аплочванне складчын — гэта адзін з галоўных статутовых абавязкаў кожнага члена БГКТ.

— Некаторыя важнейшыя праблемы дзейнасці БГКТ, — заўважыў А. Іванюк, — ставіліся і на папярэдніх з'ездах, але, на жаль, дагэтуль не былі паспяхова вырашаны. На першым плане сярод іх знаходзіцца неабходнасць хутчэйшага атрымання адпаведнага будынку для Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы, а таксама належнага захавання і экспазіцыі сабраных у ім экспанатаў. Без дапамогі ваяводскіх і цэнтральных дзяржаўных органаў наша арганізацыя не ў сілах гэта выканаць. Не менш актуальнай справай з'яўляецца неабходнасць пабудовы навучальнага корпуса і інтэрната для Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Ліцэй знаходзіцца ў будынку, непрыгодным для навучання, і гэта стварае вялікія цяжкасці для яго працы. Каля 80 прац. вучняў ліцэя вымушана даязджаць штодзень дадому ў далёкія ад Гайнаўкі мясцовасці або жыць у невыгодных і дарагіх прыватных кватэрах. Усё яшчэ нашыя пачатковыя школы адчуваюць вялікі недахоп у аўдыявізуальных дапаможніках, у праграмнай і звышпраграмнай літаратуры на беларускай мове, а настаўнікі гэтага прадмета — метадычных дапаможніках. Цяжка таксама прыняць і тое, што ў апошнім годзе наша арганізацыя атрымала менш сродкаў на такія формы культурна-асветнай дзейнасці, як даклады, лекцыі, аўтарскія сустрэчы, конкурсы і г.д.

У заканчэнні свайго выступлення А. Іванюк падкрэсліў, што рэалізацыя гаспадарчых заданняў, якія стаяць перад рэгіёнам, не можа адбывацца без актыўнага у ёй удзелу БГКТ. І наша арганізацыя ўключаецца ў іх здзяйсненне.

(мг)




Высокія пагоркі, што акружаюць даліну, пакрыты стромкім лесам. Куды ні глянеш — вакол толькі лес і мяккі блакіт неба, ад якога золата восені *яшчэ больш* яскравае і пераліўістае. На склонах пагоркаў — поле, а на поўдні, унізе, у чэрнь яловага лесу ўрэзваецца луг. Сярэдзінай даліны ўецца жэўжык-ручай і звоніць, быццам ад здзіўлення, што бетонная плацінка перагарадзіла яго свавольны бег, каб ён мог тут, ускрай панадворка сялібы, разліцца спакойным акенцам стаўка. На стаўку мітусіцца стадка качак, на даўжэзным ланцугу ходзіць аграмністы ваўкадаў, і на горцы сярод сасновага маладняку нястомна махае сваімі крыламі ветраная электрастанцыя.

Каралеўства прыгажосці, ладу і цішыні.

Вось яго адрас: хутар Садовы Сток у пяці кіламетрах ад вёскі Студзянкі, Беластоцкага павету.

Гаспадыню хутара Галіну Савіцкую мы засталі *ў полі* пры збіранні бульбы. На трактары з капачкай працаваў яе сын Пётр Савіцкі. Прайшоўшы радок, ён спыняў машыну на ўзмежку поля, браў у рукі кошык і дапамагаў матулі. Срэбрылася павуцінне баб'яга лета, побач на лузе дзынкала званочкамі стада пародзістага быдла і паволі напаўняліся мяшкі на бульбянішчы.

— Поля чацвёртага і пятага класа ў нас сем гектараў, лугу — чатыры, столькі ж пашы, а рэшту — гэта лес. Разам усяго маем 22 гектары, — інфармуе мне пан Пётр, калі мы ўжо зайшлі на прасторны і належна ўпарадкаваны панадворак. — Маем чатыры дойныя каровы і тры штукі маладняку, чатырнаццаць штук свіней, птацтва. Прадаем дзяржаве ў год па тры штукі быдла, пяць-шэсць штук кормнікаў, кантрактуем паўтара гектара аўса.

— Як на траіх чалавек — бацькоў і вас — гэта цяжкавата, — заўважаю.

— Не надта лёгка, але дапамагаюць нам машыны. Маем трактар «Урсус» і ўсе неабходныя машыны да яго, малатарню з маторам, млын з дызелем, сваю ветраную электрастанцыю з акумулятарняй, матацыкл і легкавую машыну. Ёсць і конь. Ён усё ж пакуль што неабходны да адстаўкі малака, звозкі сена і некаторых іншых прац у полі.

— А хто вам даглядае ўсё гэта? — пытаюся, гледзячы на панадворак, дзе выстраіліся ў рад навазеленыя машыны.

— Бачыце, тата перад вайною закончыў трохгадовую сельскагаспадарчую школу, а я тры гады таму назад — тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Так што каля машын ёсць каму хадзіць ды і варштацік свой маем.

У новым, прасторным і элегантна ўтрыманым доме сучасная густоўная мэбля, тэлевізар, радыё, халадзільнік, сціральная машына, водаправод, каналізацыя, ванная з цёплаю вадой...

Пані Галіна частуе нас смакавітымі марынаванымі грушамі-дзічкамі і ўспамінае:

— Ужо ад пачатку нямецкай акупацыі амаль кожную ноч прыходзілі да нас хлопцы з лесу, партызаны. Прыходзілі разведаць, што дзе дзеецца, абсушыцца, перакусіць. Мой муж быў солтысам, і да нас часта прыязджалі немцы. Часам бывала так, што дом поўны партызан, а на панадворак уязджаюць немцы. Усе трупянелі са страху, але муж хуценька даваў якія-колечы заняткі партызанам, хаваў іх дзе папала і выходзіў да немцаў. І так усё абыходзілася, хоць немцы штосьці падазравалі, былі вельмі насцярожаныя. І ў позную восень 1943 года здарылася няшчасце. Каля вёсачкі Ялоўка, што ў некалькіх кіламетрах ад нас, была сутычка партызан з немцамі. І надвячоркам да нас у хату прыйшоў партызан з ранай у грудзях. Мы кінуліся яго ратаваць, *але што ж* — выйсці па лекара не было магчымасці: вакол немцы. І хлопец памёр над ранкам. Быў недзе з-пад Варонежа. Не паспелі мы схаваць цела, як уваваліся немцы і да нас: «Ён мусіў добра ведаць гэты дом, калі прыйшоў сюды!..» Вывалаклі цела на падворак, выдзерлі ў пакойніка залаты зуб і загадалі пахаваць хлопца. Мяне з дому выгналі, мужа забралі ў беластоцкую турму. Усю гаспадарку абрабавалі і спалілі, нават калодзеж і той завалілі. Потым мужа вывезлі ў Германію, а я з першым нашым сынам знайшла прытулак ў брата, каля Супраслі. Калі пасля вайны вярнуўся муж, прыйшлі мы сюды на чыстае поле. Цяжка было, страшна цяжка... Не мелі ніякіх сродкаў, усё з уласных рук.

Пані Галіна задумваецца. За акном у асенняй пазалоце задуменны лес. Звоніць ручай. На дрэве, што побач хаты, садзіцца сонейка і цікаўна заглядае ў акно. Цішыня.

— Скажыце, вы — малады чалавек, — звяртаюся я да Пятра, — вам усяго дваццаць два гады, не жанаты, як чуецеся тут, у глыбі лесу?

— Люблю я працу на гаспадарцы, а наш Садовы Сток — мілейшая мясціна. Ведаеце, тут дзікі прыходзяць на поле на змярканні, а сыходзяць позна ранкам, алені і казулі пасуцца на лузе побач з нашым быдлам. Можа таму, што *мы іх не палохаем і не праганяем.* А да Супраслі ці Беластока на «Шкодзе» ўсяго некалькі дзесяткаў мінут язды. Я згэтуль нікуды ў свет не рушуся. Вось толькі збярэмся са сродкамі і пабудуем новы механізаваны хлеў для кароў, каб можна было малочнай гаспадаркай заняцца. Падумаем таксама, каб і наш ручай, а ён Садовым Стокам звецца, скарыстаць да абсталявання некалькіх саджалак да рыбнай гадоўлі.

Развітваемся. Сонца садзіцца за лес. Пані Галіна глядзіць на неба:

— Выскрылася надта ж, пэўна замаразак будзе.

Пётр садзіцца на трактар, каб звезці з поля мяшкі з бульбай.

На палетак жытняй руні, што побач з домам, з сасновага маладняку выйшла пара зайцоў і пачала ласавацца сакавітымі парасткамі. У лясны Садовы Сток набліжаўся вечар.

*Мікалай Гайдук*
*Фота аўтара*



# ТРЫБУНА чытачоў




## Сыноўская апека

Састарэў,ссівеў наш бацька,
Як смаржок, зрабіўся.
За свой век клаў працы многа,
Ды ўжо з сілы збіўся.

Падзяліў зямлю і хату
Між двума сынамі,
Пажаніў іх, даў ім спосаб —
Няхай жывуць самі.

Сыны рады і нявесткі,
Прыспорыла многа.
Далі слова не пакрыўдзіць,
Даглядаць старога.

Прайшоў год, другі і трэці,
Памяць карацее.
Абяцанка з думак вышла,
Бацька больш грыбее.

Ды ўжо з печы і не злазіць,
Аслабеў, паў духам.
І нявесткі паблажэлі,
Не вядуць і вухам.

Сыны пойдуць на работу,
Ў полі палуднуюць,
Стары нашча да вячэры
Церпіць і гаруе.

Ды аднойчы ён не стрымаў,
Згаладаўся дужа,
У сыноў сваіх пытае,
Ці сумленне рушыць.

Я ж меў жонку, вашу матку,
Даглядаў, стараўся,
Песціў вас і на старасць
Ўцехі спадзяваўся.

Вы не цяжкі тады былі
Ані мне, ні матцы.
Была ежа і адзежа
І куток у хатцы.

Аж на тое сын лагодна
Адказ барабаніць:
Пакінь, стары, блазнаваці,
Жонак нашых ганіць.

Мы былі тады малыя,
Як шпачкі Тамаша.
Жменька бобу, лыжка кашы —
Вось ўся ежа наша.

А ты, стары, з велькай глоткай,
А сам больш мядзведзя.
Чорт накорміць, калі хлеба
Больш куліды едзе.

Стары змоўк, адказ нягодны,
Цяпнуў, як абухам.
Словы подлыя звінелі
Доўгі час над вухам.

*Віктар Лойка*
*Гайнаўка*

тральных дзяржаў праваліліся канчаткова. Яны не хочуць ставіць на клячу, у якой пераламаны ўсе чатыры нагі... Але аб гэтым маўчыць радыё, маўчаць газеты.

Франц дастаў з кішэні чатыры малюсенькія ампулы, Фрыда адвяла вочы, абвіла пальцамі ножку бакала з пеністым вінам. Гельмут і Лота з цікавасцю сачылі за рухамі бацькі.

Апошнюю ампулу Франц расціснуў над сваім бакалам.

Фрыда сціснула пад сталом рукі так, што хруснулі костачкі пальцаў.

— Франц? — ледзь чутна прашаптала яна. — Магчыма, дзяцей... усё-такі...

— Фюрэрбефель! — адрэзаў Франц. — Загад фюрэра!

— Піце, дзеці! — цвёрда сказала Фрыда, выпраставаўшыся ў крэсле. — Усе разам!.. Хайль Гітлер!

На твары Фрыды прабегла сутарга. Дапіваючы свой бакал, яна ўзняла вочы на бюст фюрэра над камінам.

Выпіўшы шампанскае, Франц пагасіў лямпу. Свечкі слаба гарэлі ў далёкім кутку. Калі Гельмут ускрыкнуў раптам у цемры і наваліўся грудзьмі на стол, перакуліўшы кубак, Франц заціснуў вушы, зажмурыў вочы, адкінуўся ў крэсла, скруціўся...

Падлога пахіснулася раптам. Пачыналася чарговая бамбёжка.

*(Працяг будзе)*

## ВУЛІЦА

Вуліца ў вёсцы Рудуты, Бельскі павет, напэўна адна з найгоршых у ваяводстве. Вёска вялікая, будынкі добрыя, платы жалезныя, памаляваныя на розныя колеры.

А вуліца? Маса балота, ямаў, каменняў... І такая вузкая, што нават можна яе пераскочыць. Тут мінацца фурманкамі, а таксама трактарамі амаль немагчыма.

Маставая тут нізка пралажана, і ніколі тут не будзе парадку, калі брук не будзе разбураны і зроблены нанава (намнога вышэй, чым цяпер, трэба падняць). Таксама трэба, каб многія жыхары аднеслі свае платы далей ад вуліцы. Навошта лезці не на сваё?

І вуліца будзе шырокая, будзе прыгажэй, чысцей і акуратней. Трэба тут нешта зрабіць.

*П. Дубовіч*



*З думкай аб надыходзячай зіме.*
*Фота Я. Цялушэцкага*




*Дарагое Сэрцайка*

Мінуў год, як я выйшла замуж. Маю добрага мужа і маленькага сынка. Мы шчаслівыя, кахаем адзін другога, цешымся малым.

Але нядаўна трапіў мне ў рукі альбом са здымкамі. Прывёз яго муж са сваімі іншымі рэчамі ад бацькоў, дзе яны перахоўваліся, пакуль мы не атрымалі ўласнай кватэры. Пакінуўшы пачку, муж тэрмінова выехаў у камандзіроўку. Гаварыў, што вернецца праз тыдзень. Я пачала альбом пераглядаць.

І вось убачыла здымак дзяўчыны і на адвароце подпіс: «Каханаму Віці на доўгую памяць — Ёля». Было гэта ў той час, калі Віця быў маім нарачоным. Быў ён зайздросны і патрабаваў ад мяне вернасці, праўдамоўнасці, а сам... Не перанясу я гэтага. Мне страшна крыўдна. Ён хадзіў да мяне і аднachасова меў другую. А я ж думала, што Віця мяне вельмі кахае і была ўпэўнена, што мне не здраджвае. Ад часу, як мы пажаніліся, я не магу на яго нічога дрэннага сказаць. Але баюся, што калі вернецца дамоў, я ўжо не буду такая, як дагэтуль. Што рабіць: ці прамаўчаць, не ўспамінаць аб гэтым, ці сказаць усё, што накіпела мне на сэрцы? Парай, Сэрцайка.

*Ніна з Бельшчыны*

Ніна! Надта пераўвялічыла ты гэту справу, на маю думку, цяпер зусім ужо няважную. Гэта ж было яшчэ перад вашай жаніцьбай. Муж твой быў тады кавалерам. Як кожны хлапец, прывыкшы яшчэ да розных знаёмстваў, хаця быў ужо тваім нарачоным, мо не адразу парваў сувязі з іншымі дзяўчатамі. Але факт, што цяпер, ажаніўшыся, ён верны і кахае цябе, павінен перавысіць усё. Не трэба выцягваць нейкіх даўніх «грахоў», вяртацца да мінулага, якое цяпер зусім не істотнае.

Але каб самой супакоіцца, каб гэта не мучыла цябе, раю далікатна, без ніякіх папрокаў, запытаць мужа пра гэту дзяўчыну. Ён напэўна ахвотна раскажа табе аб гэтым. Гэта ж толькі ўспаміны з часоў маладосці. А ведай, што беспадстаўная, празмерная зайздрасць не будуе, але руйнуе сям'ю.

*Жадаю добрага настрою!*
*Сэрцайка*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Павятовы суд вырашыў маю цывільную справу на карысць майго праціўніка. Ваяводскі суд пераказаў справу павятоваму суду на паўторнае распазнанне. З гэтага вынікае, што рашэнне павятовага суда было няправільнае. Аднак справу паўторна разглядае той самы суддзя, які да мяне непрыхільны і дзейнічае на карысць майго праціўніка. Гэта можа быць вынікам таго, што пляменніца майго праціўніка працуе ў павятовым судзе на пасадзе сакратаркі, а жонка майго праціўніка і жонка суддзі некаторы час працавалі на адным прадпрыемстве. Ці можна патрабаваць выключэння суддзі ад разгледжання маёй справы?

АДКАЗ: Можна патрабаваць выключэння суддзі ад распазнання справы, калі паміж суддзёй і істцом або адказчыкам існуюць адносіны, якія абгрунтоўваюць погляд, што суддзя можа не быць аб'ектыўны. Аднак паданыя вамі факты недастатковыя для гэтага. Тое, што справу перасланую да паўторнага разгледжання, разглядае той самы суддзя, які выдаў першае рашэнне, з'яўляецца ў судовай практыцы звычайнай з'явай. Кіруючыся дырэктывамі ваяводскага суда, суддзя, разглядаючы паўторна справу, вырашыць яе правільна, а калі памыліцца і гэтым разам, то ваяводскі суд яго паправіць. Адсутнасці аб'ектывізму не можа ў нармальнага чалавека выклікаць тое, што яго жонка працавала некаторы час з жонкай істца ці адказчыка, або тое, што ў тым самым судзе працуе на адміністрацыйнай пасадзе далейшы сваяк таго, хто мае ў судзе справу. Гэта магло б быць асновай да выключэння суддзі, калі б было сцверджана, што суддзя ўтрымоўвае таварыскія адносіны з тым, хто мае ў судзе справу, або з яго найбліжэйшымі сваякамі. У гэткіх выпадках, як правіла, суддзя сам адмаўляецца ад распазнавання справы.

## Няслаўная хроніка

■ 6.X.1972 на шашы Беласток — Бабро́ўнікі матацыкліст Ірэнеуш Сушко (17 год) з Беластока, абганяючы неасветленую фурманку, ударыў у яе і зламаў нагу.

■ 7.X.1972 у полі каля вёскі Махнатае Гайнаўскага павету згарэла сціртa саломы Аляксея Кірылюка. Страта каля 2000 зл.

■ 7.X.1972 г. каля вёскі Семяноўка Гайнаўскага павету згарэлі дзве стадолы са збожжам. Стратныя Марыя Здаsucceedоўская і Мікалай Анішчук амаль на 80.000 зл. Пажар выклікалі дзеці.

## ЖЫВЫ ТРУП

50 год школа на вуліцы Міцкевіча ў Бельску была жывым культурным цэнтрам. Цяпер яна пустая стаіць, як жывы труп. Гарадская рада тлумачыць, што пагнілі бэлькі і будынак патрабуе капітальнага рамонту. А па прычыне недахопу ліміту можа яго адрамантуюць недзе ў 1974 годзе. Як правіла, не кожная інвестыцыя канчаецца ў тэрміне. Значыць, такі вялікі будынак будзе пуставаць некалькі год ў той час, калі грамадская рада збірае фонд на пабудову школ і інтэрнатаў. Будынак аж просіцца, каб яго прывесці ў парадак, каб у ім як найхутчэй пачуўся радасны гоман дзяцей.

Бельск налічвае 14.000 жыхароў. Школьныя будынкі вельмі патрэбныя. Пры добрай арганізацыі грамадскага чыну за тыдзень можна было б павынімаць гнілыя, драўляныя бэлькі, а за другі — замяніць іх новымі, жалезнымі. І не трэба было б чакаць некалькі год.

*Нестар Перавой*



*Вулька Нурэцкая.* *Фота В. Рудчыка.*




*Васіль Баўтручук, Махнатае.* Сардэчна дзякуем за дасланне экземпляра «Нівы», які ў сярэдзіне не быў задрукаваны. На жаль, такія фокусы здараюцца ў беластоцкай друкарні (тут рэдакцыя невінавата). Просім у такіх выпадках паведамляць нам.

*М. Лук'янюк, Белкі.* «Праўду» надрукуем у «Парнасіку».

*Яўген Чорны.* Ой, нядобра смяяцца з сябра, схаваўшыся яшчэ за псеўданімам. Вывад: «Закаханага вучня» не надрукуем.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Labirynt miłości" (radz), „Czekajcie na listy" (radz.), „Człowiek, który wątpi" (radz.), 31.X.—5.XI.

**Нараўка**
„Czarownica z bagien" (radz.), „Grzeszny anioł" (radz.), 1—5.XI.

**Нарва**
„Haszek i jego Szwejk" (radz.), „Żenia, Żenieczka i katiusza" (radz.), 1—5.XI.

**Чыжы**
„Rzut karny" (radz.), „Wiryneja" (radz.), 1—5.XI.

**Дубічы Царкоўныя**
„Mroźny poranek" (radz.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 1—5.XI.

**Арэшкава**
„Ludzie i bestie" (radz.), I i II cz. 1—5.XI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 1—5.XI.

**Орля**
„Co wieczór o 11-ej" (radz.), „Droga do przystani" (radz.), 1—5.XI.

**Райск**
„Okres próbny" (radz.), „Spotkanie na przeprawie" (radz.), 1—5.XI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Haszek i jego Szwejk" (radz.), „Na frontach wojny domowej" (radz.), 1—5.XI.

**Шудзялава**
„Jutro przestaniesz umierać" (radz.), „Pancernik Potiomkin" (radz.), 1—5.XI.

**Янаў**
„Polonez Ogińskiego" (radz.), 1—5.XI.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Kronika jednego dnia" (radz.), „Droga przez cmentarz" (radz.), „On nie chciał zabijać" (radz.), 1—5.XI.

**Мельнік**
„Gwiaździsty bilet" (radz.), „Dzień ostatni, dzień pierwszy" (radz.), „Cierpkie wino" (radz.), „Kronika jednego dnia" (radz.), 1—5.XI.

**Мілейчыцы**
„Okres próbny" (radz.), „Pancernik Potiomkin" (radz.), „Ostatnia gra Karina" (radz.), 1—5.XI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Nigdy nie wrócę" (radz.), „Człowiek bez paszportu" (radz.), 1—5.XI.

**Новы Двор**
„Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), „Gwiazdy w morzu" (radz.), 1—5.XI.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6.661 T-3

*З савецкага гумару*

## АДНОЙЧЫ Ў ЦЫРУЛЬНІ

Я з прыемнасцю апусціўся ў глыбокае крэсла, на шыю мне павязалі беласнежную прасціну.

— Падстрыгчы? — жыццярадасна запытаў цырульнік, ляскаючы нажніцамі.

— Не.

— Пагаліць?

— Не.

— Масаж, манікюр?

— Не. Не пытайцеся, ўсё роўна не адгадаеце, — сказаў я.

Цырульнік моўчкі пазіраў на мяне.

— Можа вы не зусім здаровы? — асцярожна запытаўся ён.

— Наадварот, здаровы, чаго і вам жадаю.

— Дык што ж вам ад мяне трэба? — ўздыхнуў цырульнік.

Я зразумеў, што без маёй дапамогі ён ні ў чым не разбярэцца.

— Бачыце я хачу праверыць, ці пазычыць мне першы сустрэчны 10 рублёў.

— І што ж, я і ёсць гэты першы? — спалохаўся цырульнік.

— Не, вы ўжо трэці. Першыя два бліны выйшлі камяком. Вы трэці, у каго я прашу пазычыць 10 рублёў.

— Але я вас першы раз бачу!

— А калі я вярну пазыку, будзе ўжо другі раз Уяўляеце, як вам тады будзе прыемна? Вы нібы знойдзеце гэтую дзесятку.

— А зараз я іх нібы страчу?

— Зараз вы проста дакажаце, што вы сумленны грамадзянін, які заўжды згодны дапамагчы чалавеку.

— Сумленнасць за 10 рублёў? Можа хопіць рубля? Адзін ў мяне знойдзецца.

— Няма гаворкі. 5 рублёў не менш.

— Рубель.

— Тры, — стаяў я на сваім.

— Рубель! — не здаваўся цырульнік.

— Добра, — пагадзіўся я, давайце рубель.

Цырульнік наскроб рубель дробнымі. Я не пералічваючы, сунуў грошы ў кішэню, зірнуў у люстэрка і сказаў:

— Раз ужо я сеў да вас, можа, паголіце?.. І масаж таксама...

Цырульнік хутка і спрытна зрабіў мяне прыгожым і сказаў:

— З вас рубель.

Я пакапаўся ў кішэні, дастаў дробныя — роўна рубель і пайшоў, адчуваючы, як прыемна пахне ад мяне «Палётам».

*А. Аляксейчык*



*Абое рабое,*

### РАЦЫЯ

У вядомага венскага коміка Бэкмана былі вялікія вушы. Адзін журналіст пажартаваў з гэтага.

— Вы маеце рацыю, — спакойна сказаў Бэкман. — Як для чалавека, дык у мяне сапраўды вушы вялікія. Але прызнайце, што ў вас як для асла, дык замалыя.

# НІЎКА




### «АКТЫВІСТ»

Схадзіў на важны сход Лявон,
Вярнуўся ў калектыў
І далажыў заўкому ён:
«Там быў увесь актыў»
«Што ж гаварылі там, Лявон,
Наконт надзённых спраў?»
« Звалiў мяне пракляты сон —
Я сход увесь праспаў».
«Было так нецікава там,
Ці мусіў празяваць?»
«Цікава... Ды — вядома ж вам —
Люблю я падрамаць».

*Васіль Маеўскі.*

### НА ВУЛІЦЫ

Паволі едзе машына, за рулём якой сядзіць маладая жанчына. Па краі тратуара ідзе мужчына і камандуе:

— Націсні на педаль, уключы другую перадачу. Націсні на газ!

Глянуўшы на здзіўлены твар прахожага, мужчына гаворыць:

— Гэта мая жонка вучыцца вадзіць аўтамашыну.

— Ці не лепш было б сесці побач з ёю?

— Ведаеце, машына застрахавана, а я не.

### ВЫРАТАВАЎСЯ

— Таварыш дырэктар, маглі б вы адпусціць мяне на гадзіну з работы? Званіла жонка і прасіла каб я пайшоў з ёю па прадукты.

— Не, не магу.

— Ад усяго сэрца дзякую вам, таварыш дырэктар.



### Талаваломка

1
5 3
7 4 6
5 1 6 8
1 6 4 5 2
5 8 7 6 9 1
6 3 1 5 6 7 3
2 4 5 3 7 5 4 1
5 7 9 6 8 1 3 6 7
6 1 8 5 7 4 8 3 5 9

Пачынаючы з самай вяршыні ступенчатай пірамiды, адбярыце ад кожнай ступені па адной толькі суседняй лічбе. Якія дзесяць лічбаў трэба адабраць, каб іх сума раўнялася самаму вялікаму з магчымых вынікаў?

*

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

(22—2) х 2 = 40

*Гумар з барадою*

### ПРА СКУПОГА ГАСПАДАРА і ХІТРАГА ПАРАБКА

Аднойчы адзін гаспадар паслаў парабка ў лес па дровы. На дарогу даў торбу з харчамі.

Заглянуў парабак туды, а там на дне — маленькі сухарык.

— Што ж вы мне так мала далі на абед? — пакрыўджана спытаў парабак.

— Як размочыш у рэчцы, то і не з'ясі, — буркнуў гаспадар.

Парабак вырубаў у лесе сухі дручок, палажыў каля сябе і лёг спаць. Праз некалькі гадзін прыехаў у лес гаспадар. Убачыў, што парабак спіць, і страшэнна разлютаваўся:

— Ты, чаму, лайдак, не нарубаў дроў?

Парабак падаў сухі дручок гаспадару і сказаў:

— Як размочыце, дык і на воз не ўлезе.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Эвы Брысюк, Марыі Аксентовіч, Яніны Леўчук з Гайнаўскага павету і Галены Кучынскай з Меляшкоў Беластоцкага павету змяшчаем

## DOM, KTÓRY MAM

Czas strumieniem wartkim płynie
i odmierza twarze snu,
nieodmienne jest do dziś jedynie
co przed nami było tu.

Wesołość ptasich gniazd, od snu ciepły las
i świerszcza śpiew zaklęty w krzew znajomy.
Idący polem dzień i świt kiedy cień
odejście nocy kryje w mgieł zasłony.

Bezdroża szumnych traw, niezmienność wśród malw,
gdy barwą kryją ściany pobielane.
W powietrzu czystym dzwon i bzu biały szron,
to dom rodzinny, to mój dom.

Czas od dawien dawna plącze
pajęczyny naszych dróg,
choć nie jedna droga nam się skończy,
po nas znowu będzie tu:

Wesołość ptasich gniazd...

### ПЕРАШКОДА

Прафесар да вучаніцы:

— На маю думку, у дасягненні дасканаласці ў танцы перашкоджваюць вам дзве рэчы...

— Якія, пане прафесар?

— Ногі...

*Аўтаматызацыя вытворчых працэсаў.*

### ХТО ЎПАРТЫ?

— Чаму ты такі ўпарты? — спыталі ў Ішака.

— Гэта я ўпарты? — здзівіўся Ішак. — Гэта чалавек упарты. Колькі я ўпіраюся, столькі ён мяне б'е. На яго месцы я даўно адчапіўся б.

### ЧАМУ?

Прафесар пачынаючаму доктару:

— Ваш першы пацыент, калега, ачуняў. Чаму ж вы такі невясёлы?

— Не ведаю, што яму дапамагло.

### ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Чаму вы не дазваляеце Янцы гуляць з вамі ў індыйцаў?

— Ён парушае гульню — павінен быць бледнатварым, а ўмывацца не хоча.

### У АМЕРЫЦЫ

Чалавек зайшоў у бар, выпіў глыток рому, палажыў на прылавак сто песа і выйшаў.

Якраз у той момант, калі барман замест у касу клаў грошы сабе ў кішэню, увайшоў адміністратар.

— Ну і людзі заходзяць сёння! — не разгубіўся бармен. — Пакінуў сто песа на чай і забыў заплаціць за ром.



# Курёзы

### ХТО АХОЎВАЕ СКОТЛАНД-ЯРД?

У апошні час англічане ўсё часцей звяртаюцца да паслуг прыватных дэтэктываў: брытанская паліцыя не можа пахваліцца рэзультатыўнасцю. Дастаткова ўспомніць хоць бы беззвыніковыя спробы знайсці грошы, украдзеныя ў час аграблення паштовага поезда. Цікава, што думку публікі падзяляе і... самая паліцыя. Асабліва пасля таго, як са славутага Скотланд-Ярда — упраўлення лонданскай паліцыі — злачынцы ўкралі паліто, шалік і капялюш самога начальніка ўпраўлення. Паліцэйскія звярнуліся за дапамогай у прыватнае агенцтва «Аргус» з просьбай узяцца за ахову Скотланд-Ярда. А то ад жулікаў спакою няма.

### РЭДКІ ВЫПАДАК

Бухарэст. Румынскія паляўнічыя Т. Брэшвелян і С. Подару знайшлі рэдкі выпадак вавучанят у павеце Бістрыца-Нэсэуд. Ва ўсіх пяці ваўчанят пярэднія лапкі і грудкі белай поўсці, што вельмі рэдка назіраецца ў ваўкоў. Ваўчанят кормяць з сосак, яны ўзяты пад кантроль спецыялістаў. Цікава, што пасля адстрэлу ваўчыцы паляўнічыя знайшлі ваўчанят у глыбокай барсуковай нары. Каб дабрацца да вывадку, ім давялося выкапаць сапраўдны тунель.

### ЗАГАДКА РАКФЕЛЕРА

«Скажы мне, што ты выкідаеш на сметнік, і я скажу, хто ты», — так называецца кніжка нью-йоркскага сацыёлага Алана Уэбермена. Аўтар, які называе сябе «аналітыкам смецця», даследаваў кантэйнеры са смеццем некаторых вядомых амерыканцаў: Касіўса Клея, завадатара хіпі Эбі Хормана і іншых. Аднак смецце мультымільярдэра Дэвіда Ракфелера вельмі яго азадачыла, ледзь не парваўшы ўсю яго тэорыю: «Я знайшоў усяго толькі некалькі абгрызеных костак і пару вараных буракоў».




*У краіне глуханямых крык асла здаецца музыкай.*